Год VI. Сакавік № 3(63).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 3:



**Падаём да ведама падпішчыкаў, што „Шлях Моладзі“ будзе магчы ў працягу пару месяцаў выходзіць у пабольшаным разьмеры, паведамляем пры тым, што ад гэтага нумару, пачынаем часткова ўстрымліваць высылку часопісі усім, хто не аплаціў за яе падпіскі. Калі хто ня можа цяпер заплаціць падпіскі, а часопісь хоча атрымліваць, няхай паведаміць нас, калі ён гэта зробіць; тады высылка часопісі яму ня будзе ўстрымана.** **Рэд. і Адм. „Шляху Моладзі“.**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к. | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П. п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VI. | Вільня, Сакавік 1934 г. | № 3 (63). |
| --- | --- | --- |

## *НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ — НАША ЗОРКА.*

*Незалежнасьць — наша зорка,*
*Ейны шлях — у нас самых —*
*Захапіўшы нашы сэрцы,*
*Агарнуўшы думкі ўсіх,*
*Ласкай мілаю, красою.*
*Ейны сьвет — у нас зіпціць —*
*Жыцьцятворчымі агнямі*
*Новай прышласьці іскрыць.*
*Агнявістым і іскрыстым*
*Сьветам радульні-красы*
*Цьму сумніваў разганяе*
*Нашых сэрцаў і душы.*
*А надзею лепшай долі,*
*Што мадзее у грудзёх,*
*Аж да сонца падымае —*
*Звыш канцоў жыцьця дарог.*
*Ох, ты, зорка—Незалежнасьць,*
*Распалі агонь надзей!*
*Каб стапіліся аковы*
*Абланцужаных людзей.*

*УЛАД-ІНІЦКІ.*



**Ад. Станкевіч.**

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. 1)

*70-лецьце сьмерці Кастуся Каліноўскага рэд. „Mužyckaj Praŭdy“ († 1864) — 50-лецьце «Гоману» (1884) — 16-лецьце абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі (25.III.1918).*

## I

### Уступныя ўвагі.

Кожны народ мае свае вялікія ідэалы, да якіх бязупынна імкнецца, аб якіх сьніць салодкія сны і якім часта пасьвячае ўсё жыцьцё сваё.

Для паасобнага чалавека, у прыродным парадку жыцьця яго, найвялікшым ідэалам зьяўляецца жаданьне шчасьліва ўладзіць сваё жыцьцё і як найдаўжэй затрымаць яго.

Кожны народ, як грамадзкая і сьведамая сваей грамадзкасьці адзінка, так-жа імкнецца да магчыма найбольш памыснага і найбольш трывалага жыцьця. Ідэал гэткі ў кожнага сьведамага народу звычайна выяўляецца ў вольным, самастойным, незалежным жыцьці сваім. Палітычная незалежнасьць і грамадзка-эканамічная самастойнасьць — гэта абавязкавыя варункі памыснасьці і поўнага развою кожнага народу.

Беларускі народ, падлягаючы няўхільным законам жыцьця і яго лёгіцы, а таксама ідучы за прыкладам іншых нароцаў, 16 гадоў таму — 25.III.1918 — праз лепшых сваіх сыноў, усяму сьвету заявіў аб сваіх правох на палітычную незалежнась і аб сваей няўхільнай да гэтага волі.

Але ніякія вялікія ідэалы, вялікія думкі, як у адзінак, так і ў народаў звычайна ня родзяцца з нічога і раптоўна. У жыцьці духовым звычайна бывае так, як і ў жыцьці арганічным. Сьпярша паяўляюцца зародкі, якія паволі растуць і разьвіваюцца, а ўрэшце дасьпяваюць і даюць пажаданы плод.

Ад гэтага закону жыцьця ня быў вольны і беларускі акт 25.III.1918. Акт гэты, як некатарай меры свайго роду дасьпелы плод беларускай народна-палітычнай думкі, папяраджала праца многіх людзей для дабра беларускага народу і розныя — большага і меншага значэньня — гістарычныя здарэньні і факты, з якіх урэшце вырас і паявіўся ідэал незалежнасьці беларускага народу, выяўлены актам 25.III.18.

Такімі галоўнымі прадвесьнікамі акту 25.III. быў Кастусь Каліноўскі з сваей часопісяй „Mužyckaja Prauda“ і з іншымі

сваімі друкамі, а так-жа часопісь „Гоман" з тымі людзьмі, што яе пісалі і пускалі ў беларускі народ.

Тым больш дарэчы ўспомніць сёлета — ў 16-тыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — аб гэтых вясьняных зорках беларускай вызвольна-палітычнай думкі, — што якраз сёлета ў сакавіку месяцы мінула 70 гадоў (1864) ад сьмяротнай казьні Кастуся Каліноўскага на Лукіскім пляцы ў Вільні, а ў лістападзе прыпадаюць 50-тыя ўгодкі (1884) другога нумару часопісі „Гоман".

Сёлета такім чынам прыпадае трайны юбілей, які сваім зьместам у беларускай вызвольнай думцы зьяўляецца нечым адным і суцэльным. І „Mużyckaja Prauda" з Каліноўскім і „Гоман" з Грыневецкім — сваім ідэйным папярэднікам — гэта зародкі, з якіх вырасла буйнае зярнё 25.III.1918, з каторага ў свой чарод разьвіваецца плод, якому імя незалежны і шчасьлівы Беларускі народ.

Вось-жа хоць агульна прыпомніць і падчыркнуць гэныя галоўныя здарэньні ў беларускай палітычна-вызвольнай гісторыі, а так-жа й тое, што з імі беспасрэдна зьвязана —галоўная мэта гэтых нарысаў, якія пасьвячаюцца беларускай моладзі, бо-ж маладымі згінулі за народ і Каліноўскі і Грыневецкі, маладыя пісалі „Гоман" і шырылі яго ў народзе, маладыя павядуць далейшую барацьбу за поўнае вызваленьне беларускага народу.

---

# РЭЗАЛЮЦЫЯ.

**ТАВАРЫСТВА ПРЫЯЦЕЛЯЎ БЕЛАРУСАВЕДЫ ПРЫ У.С.Б. у Вільні разгледзіўшы на сваіх Навуковых Зборках дня 21.I.34 і 28.I.34 г. Дэкрэт з дня 28.VIII.33 г. Рады Народных Камісараў Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі, уводзячы зьмены ў беларускую нарматыўную граматыку і беларускі правапіс, на скліканай у гэтай справе дня 4.III.34 г. Агульнай Зборцы сяброў Т-ва, вынесла наступную Рэзалюцыю:**

**„Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры Унівэрсытэце Сьцяпана Батуры ў Вільні з абурэньнем адкідае галаслоўны і фальшывы закід Дэкрэту, што:**

**а) быццам беларуская дасюлешняя літэратурная мова мела агульныя тэндэнцыі адарвацца ад мовы беларускіх працоўных масаў;**

**б) быццам некаторыя Беларусы „стваралі штучны бар'ер паміж беларускай і расейскай мовамі," і адначасна Таварыства зазначае, што паміж менаванымі мовамі ёсьць „бар'ер" прыродны, як паміж языкамі спрадвеку асобнымі.**

Таварыства констатуе:

1. Што ў прыгатове і прыйме т. зв. рэформы з 28.VIII.33 г. Беларусы ня прыймалі жаднага ўчасьця, але была яна праведзена вылучна расейскімі ўраднікамі.

2. Што Дэкрэт з 28.VIII.33 г. сілком накідае беларускаму насяленьню БССР і РСФСР уведзеную гэтым Дэкрэтам т. зв. рэформу.

3. Што ўсялякую апазыцыю Беларусаў процi праведзенае Дэкрэтам рэформы Расейцы душаць страшным тэрорам, змушаючы адначасна тым-жа тэрорам да актыўнага прызнаньня „рэформы".

4. Што Дэкрэт з 28.VIII.33 г. аб рэформе зьмяніў ня толькі правапіс, але ў такой-жа меры і нарматыўную (практычную) граматыку беларускае мовы (23 зьмены, праведзеныя рэформаю, датычаць адначасна граматыкі й правапісу; дзьве зьмены вылучна правапісу).

5. Што Дэкрэт ані з гледзішча філёлёгічнага, ані пэдагогічнага нічога не паправіў у дагэтуляшняй практычнай граматыцы і правапісе беларускае мовы.

6. Што рэформа стаіць у поўнай супярэчнасьці так з беларускай літэратурнай мовай, якая разьвілася з мовы народнай, як і з дыялектамі беларускае мовы.

7. Што Дэкрэт ня толькі не палягчыў навучаньня ў школах беларускае мовы і народным масам навучаньня бел. правапісу, але стварыў у гэтым надзвычайныя перашкоды, бо каб навучыцца беларускае мовы згодна з зьменамі праведзенымі Дэкрэтам, трэба ўперад у вялікай меры навучыцца парасейску.

8. Што Дэкрэт сілком выкідае з практычнае граматыкі беларускае мовы яе галоўныя граматычныя асаблівасьці, замяняючы іх асаблівасьцямі расейскімі, зусім чужымі беларускай мове.

9. Што адзінай мэтай Дэкрэту ёсьць русыфікацыя беларускае мовы.

Прыймаючы пад увагу вышэйсказанае, Таварыства протэстуе супроць зьдзеку над беларускай мовай у БССР і РСФСР і прымусовага яе русыфікаваньня.

Вільня, дн. 4 III.1934 г. *Прэзыдыюм Сходу.*



# Adam Hurynovič.

(*U 40-ja ŭhodki śmierci*).

Sioleta 14 ha studnia minuła 40 hadoŭ ad dnia śmierci słaŭnaha biełarusa, pieśniara i revalucyjanera, studenta Technologičnaha Instytutu ŭ Pieciarburzie, — Adama Hurynoviča. Dziela ŭšanavańnia pamiaci, a tak ža dziela šyrejšaha abznajamleńnia biełaruskaje moładzi z hetaj śvietłaj asobaj paśviačajem voś hety artykuł.

Adam Hurynovič, syn Kaliksta i Eleonory z Sieniaŭskich Hurynovičaŭ, radziŭsia ŭ 1869 h. u dvary svajej maci, Kavaloch, Vialejskaha pav.



Pa pačatkavaj damovaj navucy ŭstupiŭ Adam u vilenskuju realnuju školu i skončyŭšy jaje pajechaŭ u Technologičny Instytut u Pieciarburh, hdzie specyjalna zajmaŭsia ŭlapšeńniem paravozaŭ i ŭ hetym kirunku mieŭ adznačycca peŭnymi cikaŭnymi i važnymi navukovymi asiahnieńniami. Navukovyja rukapisy, razam z čaściu literaturnymi, jak ćvierdzić B. Taraškievič u artykule ab Adamie Hurynoviču („Biełaruski Zvon" Nr. 3, Vilnia 1921h.)— zništožany pierad adnym z vobyskaŭ. Za prynaležnaść da tahačasnaha revalucyjnaha ruchu ŭ 1893 hodzie Hurynoviča ŭłady aryštavali*). Pahoršyłasia sprava, kali siarod jaho papieraŭ ułady znajšli napisany im biełaruski vierš, u jakim jon zavie biela-

*) Aryštavali ŭ Vilni, u ŭłasnym na toj čas budynku Hurynovičaŭ, pry vul. Piramont Nr. 22.

ruski narod pračnucca i skinuć z siabie carskaje jarmo. Aryštavany Hurynovič apynuŭsia ŭ Pietrapaŭłaŭskaj krepaści ŭ Pieciarburzie, u jakoj, prabyŭšy blizka hod, mocna zaniapaŭ na zdaroŭi, dziela čaho byŭ zvolnieny pad nadzor palicyi ŭ dvor svajho baćki, Krystynopol, Švianciańskaha pav., dzie paśla kolki dzion zachvareŭ na čornuju vospu, pryviezienuju z paŭnočnaj stalicy, i pamior 14-ha studnia 1894 h. Palicyja zorka sačyła Hurynoviča i kali jon lažaŭ ŭžo ŭ trunie, pryjechała dapytyvacca ab im, nia vieračy, što pamior. I tolki matka Adama, jak ćvierdziać siańnia svajaki jahonyja, pierakanała palicyju, pakazyvajučy na niaboščyka, jak na achviaru palicejskaha i carskaha prańsledu. Pachavany Hurynovič u Krystynopali, u familijnych hrabnicach.

Jašče ŭ apošniaj chvilinie svajho žyćcia, majučy nadzieju pieramahčy strašennuju chvarobu, snavaŭ plany budučaje pracy na nivie rodnaha kraju, z dumkaju budzić i klikać da žyćcia narod, movu i biełaruskuju literaturu.

Adam Hurynovič naležyć da tych hierojaŭ-revalucyjaneraŭ z druhoj pałovy(ściślej kanca) 19-ha vieku, jakija pieradusim rekrutavalisia z studentaŭ universytetaŭ, pracavali siarod sialanskich i rabotnickich huščaŭ, zasialajučych b. carskuju imperyju narodaŭ, pašyrajučy siarod ich socyjalnuju i nacyjanalnuju śviedamaść — i darohaj revalucyi i paŭstańnia imknulisia zvalić nienavisnaje carskaje jarmo. „U hetuju paru — kaža Maksim Harecki*) ŭ roznych vialikich haradoch Rasii i zahranicaj studenty-biełarusy zakładajuć svaje hurtki, cikaviacca navukaj biełarusaznaŭstva, časam vydajuć svaje studenskija biełaruskija časopisi, navat z jaŭna vykazanym žadańniem biełaruskaj aŭtanomii... i ŭsim hetym nadta spryjajuć ahulnamu ažyŭleńniu rodnaj nivy, a haloŭnym čynam — na literaturnym prastory".

Adam Hurynovič naleža da epihonaŭ słaŭnaha Kastusia Kalinoŭskaha, čyrvonaha dyktatara paŭstańnia z 1863 h. na Litvie i Biełarusi, — Ihnata Hryniewieckaha (radziŭsia ŭ 1856h.), jaki byŭ taksama studentam taho-ž Technologičnaha Instytutu ŭ Pieciarburzie i jaki 1-ha sakavika 1881-ha h. raspłaciŭsia z nienavisnym tyranam, caram Aleksandram II, kidajučy ŭ jaho bombu, ad jakoj zhinuŭ i tyran i sam Hryniewiecki; — byŭ narodavolcam; znachodziŭsia pad silnym upłyvam Fr. Bahuševiča, ab čym śviedčyć choć-by jahony vierš pad naz. „Da Macieja Buračka," u jakim znachodzim silnaje adbićcio biełaruskaje śviedamaje nacyjanalnaje dušy i — ŭžyvajučy tut słoŭ samoha aŭtora —adbićcio kachajučaha serca i bałaščaje hrudzi A. Hurynoviča.

Hurynovič pisaŭ pabiełarusku vieršam i prozaj; pierakładaŭ tak-ža na biełaruskuju movu vieršy i prozu polskich i rasiejskich aŭtoraŭ. Jaho literaturnaja spadčyna čakaje apracavańnia i vydańnia ŭ śviet u drukavanaj vopratcy.

---

*) Historyja biełaruskaje literatury." Miensk. 1926 hod, bačyna 148; cytata z „Iskraŭ Skaryny" Nr 3, bač. 32, studzień1934 h., Praha.

A. Hurynovič byŭ pilnym źbiralnikam etnografičnaha materjału. Jość mnoha sabranaha im hetaha materjału z pavietaŭ Śviancianskaha i Vialejskaha. Niekatoryja rečy etnografičnyja drukavaŭ u „Viśle," gieografičnym i etnografičnym miesiačniku, jakoha dziejnym redaktaram ad 1888 da 1899 h. byŭ znamianity polski vučony — filoloh i etnograf — Jan Karłovič. Vychodziła „Visła" ŭ Varšavie ad 1887 h; vyšła ŭsiaho hadavikoŭ 17. Supracoŭničaŭ u „Viśle" tak-ža Fr. Bahuševič.

U 1893 h. vyšaŭ u Krakavie asobny zbornik biełaruskich etnografičnych materjałaŭ p. naz. „Zbiór rzeczy białoruskich, gm. Wiszniewskiej, parafii Żodziskiej, pow. Wilejskiego" sabranych i apracawanych A. Hurynovičam i wydanych koštam Akademii Navuk u Krakavie*).

Častka z literaturnaj spadčyny, a tak ža nikatoryja etnografičnyja materjały, uziatyja B. Taraškievičam u svaim časie ad bratanicy Adama, Pani Dr. J. Hurynovič, Docent U. S. B., znachodziacca ŭ Biełaruskim Muzei im. Ivana Łuckieviča ŭ Vilni. Niekatoryja z vieršaŭ drukavalisia ŭ „Biełaruskim Zvanie" (Vilnia, 1921 h.); asabistaja korespondencyja i častka etnografičnaha materjału znachodzicca ŭ svajakoŭ pieśniara.

Voś bolš-mienš ahulny narys ab A. Hurynoviču, jahonaj hramadzkaj dziejnaści i tvorčaści.

Literaturnaja tvorčaść A. Hurynoviča, źmiaščajučaja ŭ sabie vielmi mnoha hramadzkaha i śviadoma-nacyjanalnaha elementu, vyklikaje hłybokaje zacikaŭleńnie i vialiki žal u biełaruskim sercy da tahačasnych varunkaŭ žyćcia i biazlitasnaha losu, jaki ŭ maładych hadoch złamaŭ kvołaje žyćcio pieśniara filomata narodna-biełaruskaj dušy i praŭdy, revalucyjanera i niaŭtomnaha baraćbito za lepšaje zaŭtra Biełaruskaha Narodu.

Janka Šutovič.

# Śviatkavańnie maleńkaha jubileju „Šl. Moładzi".

Viečar pryśviačany 5-tym uhodkam vydaviectva „Šlachu Moładzi", ładžany dnia 25 lutaha 1934 h. u Vilni, u zali Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury adbyŭsia duža ŭračysta. Zala Instytutu, zahadzia prybranaja Pahoniaj, bieła-čyrvona-biełymi narodnymi biełaruskimi ściahami, partretami biełaruskich narodnych paetaŭ Janki Kupały i Jakuba Kołasa, a tak-ža žyvymi ćviatami, pryniała śviatočny vyhlad.

A hadz. 19 nia susim małaja zalka zapoŭniłasia moładździu i starejšym biełaruskim hramadzianstvam. Pry stale, pad Pahoniaj i nacyjanalnymi ściahami zaniali miesca siabry sučasnaje Redakcyjnaje Kalehii „Šlachu Moładzi": Janka Bah-

*) Padaŭ M. Pieclukievič.

danovič, Jazep Malecki, Alfons Šutovič i Jazep Najdziuk, a tak-ža hram. M. Pieciukievič, jaki, jak viedama, źjaŭlajecca adnym z zakładčykaŭ „Šl. Moł.“. Nia była adno nažal prysutnaj siabr. Red. Kalehii Izabela Tumaš-Šutovič, jakaja z pryčyny niadaŭna adbytaj operacyi nie mahła pryniać udziełu ŭ viečary.

Raspačaŭ viečar Jazep Najdziuk, jaki, pryvitaŭšy prysutnych, zaniaŭ miesca pry prybranaj u narodnuju tkaninu katedry i ŭspomniŭšy ab pieršaj biełaruskaj časopisi dla moładzi „Лучынка“, jakaja vychodziła ŭ 1914 hodzie ŭ Miensku, pračytaŭ spravazdaŭčy referat z dziejnaści Redakcyjnaje Kalehii „Šlachu Moładzi“ za 5 hadoŭ, dziakujučy adnačasna ŭłaśnikam Biełaruskaj Drukarni im. Fr. Skaryny za biezinteresoŭnaje dazvaleńnie drukavać „Šlach Moładzi“ i ŭsim supracoŭnikam, prysutnym i niaprysutnym, za idejnuju pracu. Prysutnyja pryniali spravazdaču hučnymi vopleskami. Źmiest spravazdaŭčaha referatu padali my ŭ prošłym numary „Šlachu Moładzi“.

Paśla referatu staršynia viečaru toj-ža J. Najdziuk daŭ hołas pradstaŭniku Biełaruskaha Studenskaha Sajuzu, stud. Viktaru Vojtencу, jaki ad imia biełaruskaha studenstva zhurtavanaha ŭ B.S.S. pryvitaŭ „Šl. Moładzi“ z 5-tymi ŭhodkami, žadajučy pamysnaje pracy ŭ budučyni. Dalej, ad imia biełaruskaje universyteckaje arhanizacyi Tavarystva Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pry Vilenskim Universytecie, uziaŭ słova stud. Siarhiej Saroka, jaki padčyrkivajučy dadatniaje značeńnie pracy „Šlachu Moładzi“, žadaje jamu dalej pamysna raźvivacca.

Paśla hetaha siabra Red. Kalehii stud. Jazep Malecki pračytaŭ prysłanyja pryvitańni:

Ad Tavarystva Biełaruskaje Moładzi ŭ Łatvii nastupnaha źmiestu:

„Nia majučy mahčymaści pasłać pradstaŭnika na Viečar 5-tych uhodkaŭ vydaviectva „Šlachu Moładzi“, Centralnaje Praŭleńnie T-va Biełaruskaje Moładzi ŭ Łatvii ščyra vitaje Redakcyjnuju Kalehiju „Šlachu Moładzi“ z 5-ci ŭhodkami vydaviectva časopisi i žadaje dalejšaha pośpiechu“.

Staršynia Centralnaha Praŭleńnia
(—) *K. Miažecki*
Sekretar (—) *Kłabiš Fr.*

Ad hram. K. J. z Brasłaŭščyny, jaki ad svajho imia, a tak-ža ad imia akaličnaje moładzi vitaje „Šlach Moładzi“ z 5-tymi ŭhodkami nastupnym vieršam:

Ja ščyra, siabry, vas vitaju
Sa śviatam uhodkaŭ „Šlachu“
I ŭ pryšłaści ščaścia žadaju,
Zbaroć i zmahčy ciemnatu!

Dalej, jak dahetul, pracujcie,
Budziecie ad snu maładych,
Ich śviežyja siły hartujcie
U zmahańni za volu usich!
O, viercie, nikoli nia budzie,
Kab źhinuŭ rodny naš narod...
Ŭžo mocnyja našyja hrudzi —
My pojdziem niazłomna ŭpiarod!

Dalej, stud. Malecki pračytaŭ ščyryja i haračyja, u duchu niezaležnickim pryvitańni ad Hurtkoŭ Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ m-ku Budsłavie, u v. Raśle, Vialejskaha pav., u v. Šutavičach, Ašmianskaha pav., a tak-ža pryvitańni ad moładzi vioski Ciacierki Brasłaŭskaha pav., i padaŭ da ahulnaha viedama, što Redakcyjnaja Kalehija „Šlachu Moładzi" atrymała pryvitańni ad biełaruskich paetaŭ: — Michasia Mašary, Janki Byliny i Jazepa Vilkoŭščyka, a tak-ža maładoha kulturnaha biełaruskaha pracaŭnika ŭ Ašmianščynie Antosia Žabinskaha. Treba zaznačyć, što redakcyja „Šlachu Moładzi" praz uvieś čas svajho isnavańnia atrymlivała i atrymlivaje ciapier vielmi mnoha pryvitalnych, pachvalnych i vielmi prychilnych piśmaŭ, pieraličeńnie jakich zaniało-b šmat času i miesca.

Paśla hetaha zabraŭ jašče raz hołas J. Najdziuk, jaki ad imia Redakcyjnaje Kalehii „Šlachu Moładzi" ščyra padziakavaŭ za pryvitańni, zvaročvajučy asablivuju ŭvahu na pramovy pradstaŭnikoŭ biełaruskaha studenstva i vyražajučy pažadańnie, kab biełaruskaje studenstva i biełaruskaja sialanskaja i rabotnickaja moładź, jak najbližej supracoŭničyła z saboj na karyść biełaruskaha narodu, viadučy jaho da poŭnaj niezaležnaści, što prysutnyja spatkali haračymi vopleskami.

Na hetym pieršaja čaść viečaru była zakončana. Paśla nievialikaha pieraryvu vystupaŭ Biełaruski Chor pad kiraŭnictvam hram. Albina Stepoviča, jaki strojna vykanaŭ 9 narodnych biełaruskich pieśniaŭ, a tak-ža stud. A. Machońka, jaki pry akampanijamencie red. J. Paźniaka vielmi ŭdała vykanaŭ solo na skrypcy. Padčas pieraryvaŭ u kancertnym addziele stud. H. Šutavičanka pračytała vierš Uład-Inickaha „Na mory" pryśviačany 5-tym uhodkam „Šlachu Moładzi", V. Č.—ja vielmi pryhoža pradeklamavała vierš A. Žuka „Da moładzi" i stud. M. Tatarynavičanka pračytała vierš Kazłoŭščyka „Nie paddavacca", pryśviačany pracaŭnikom „Šlachu Moładzi" ŭ 5-tyja ŭhodki vydavieckaje pracy. Viečar zakončyŭsia supolnym adśpiavańniem biełaruskaha revalucyjnaha hymnu „Ad vieku my spali".

Viečar pryśviačany 5-tym uhodkam „Šlachu Moładzi" źjaŭlajecca biazumoŭna jašče adnym dokazam, što niezaležna-

nickaja ideja siarod biełaruskaha starejšaha hramadzianstva i moładzi, što raz bolš pašyrajecca i raźvivajecca, ścvierdziŭ jon, što zaniataje «Šlacham Moładzi» stanovišča jość sapraŭdnym vyjaŭleńniem voli absolutnaj bolšaści biełaruskaha narodu i što hramadzianstva naša hatova zaŭsiody ščyra padtrymlivać kožny samatužny prajaŭ baraćby za poŭnuju niezaležnaść biełaruskaha narodu, a heta jasna havora, što *„budzie ŭnikaŭ panavańnie tam, dzie siańnia płača dzied!"*.

---

# Сакавік

3-ці месяц году. Мае 31 дзень. У рымлянаў — Martius; франц. — Mars; анг. — March; ням.—März. У рэспуб. кал.— Ventose — месяц вятроў.

У славянаў — сухій, березол; чэск. —бржэзен; сэрб.— брезені; рас. -- март; поль. — marzec; укр. — березень.

Беларускі назоў — сакавік—паходзіць ад слова „сок“ — у гэтым месяцы, пасьля зімовага заміраньня ў дрэвах пачынаюцьісьці ў рух сокі. У народзе захаваўся і другі назоў сакавіка — марац, зродны рас. і поль. назовам гэтага месяца.

Рымскі назоў — Martius — сакавік атрымаў таму, што заснавацелі г. Рыма, Ромул і Рэм, пасьвяцілі гэты месяц Марсу — богу сонца і вайны, апякуну земляробства і гадоўлі скаціны, увасабленьню творчых сілаў прыроды. У рымлянаў сакавік быў першым месяцам году, аж да 153 г. да Нар. Хр., калі першым месяцам году пачаў лічыцца студзень. Першым месяцам году сакавік лічыўся ня толькі ў рымлянаў і іншых старажытных народаў, але і ў народаў новых, у тым ліку і ў славянаў. У славянаў з сакавіка месяца пачыналася г. зв. пралецьце. Чэхі яшчэ дагэтуль першы дзень сакавіка называюць „летніцы“. Як ужо гаварылася ў стацьці „Студзень“, і праваслаўная царква пачынала новы царкоўны год з 1 сакавіка. Найдаўжэй гэты звычай цягнуўся ў Расеі, бо ад прыняцьця хрысьціянства ў 988 г. аж да 1344 г., калі ўжо было пастаноўлена лічыць пачаткам году 1 верасьня. Адгалосак гэтага звычаю захаваўся ня толькі ў расейскім народзе, але і сярод беларусаў, асабліва сярод праваслаўных. У шмат якіх мясцовасьцях Беларусі народ лічыць пачаткам вясны 1 сакавіка, таму ў гэты дзень не працуюць, каб не прагнявіць мучаніцы Аўдакіі, каторая „дзержа ў руцэ лета.“

Цікава адзначыць, што дзень 1 сакавіка сьвяткаваўся і рымлянамі, асабліва жанчынамі. Гэтае сьвята — Matronalia — было ўстаноўлена ў чэсьць Юноны, як апякункі жаночага жыцьця. Юнона — найвышэйшая багіня, царыца не-

ба і зямлі, сужонка Юпітэра — лічылася багіняю раньняга сьвятла і як такой, ёй быў пасьвячаны кожны першы дзень месяца. Асабліва-ж гэты дзень сьвяткаваўся 1 сакавіка, як першы дзень першага месяца году.

Варта зьвярнуць увагу яшчэ на адно рымскае сьвята — Quinquatrus — якое цягнулася ад 19 да 23 сакавіка, супадаючы з днём вясеньняга роўнадзеньня. Quinquatrus было прысьвячана Мінэрве — дзявоцкай багіні мудрасьці і вынаходаў; пад яе апекаю былі промыслы, рамёслы і хатнія работы жанчын. Гэтае сьвята сьвяткавалася рамесьнікамі, артыстамі і школьнікамі, каторыя пасьля сьвят мелі паўгода вакацыяў.

Час, блізкі вясеньняга роўнадзеньня, сьвяткаваўся і старажытнымі славянамі — яны ладзілі розныя сымболічныя гульні і пяялі песьні — вясьнянкі. У гэтым сьвяткаваньні, ці сустраканьні вясны іншы раз бралі ўдзел жыхары цэлай ваколіцы, як пажылыя, так і маладыя. Гэтае сьвята, ці праўдзівей кажучы, гэты абрад яшчэ і цяпер захаваўся ў шмат мясцовасьцях Беларусі, але ён ужо абмежыўся толькі адным днём — Дабравешчаньнем. У гэты дзень дзяўчаты выходзяць на вуліцу, або на бліжэйшую горку за сялом, дзе распальваюць агонь і пяюць адпаведныя песьні — „гукаюць вясну.“ Там, дзе абрад гэты выміраe, дзяўчаты „гукаюць вясну“ седзячы на прызьбе

Астранамічная вясна пачынаецца 21 сакавіка, калі дзень становіцца роўны з ночаю (вясеньняе роўнадзеньне) і сакавік лічыцца першым вясьняным месяцам. Але пагода йшчэ не вясеньняя: сьцюдзена, цёпла, сьнег, дождж, прымаразкі, вятры – а гэта ня здорава для людзей старых і хворых на грудныя хваробы. Нездаровая сакавіковая пагода адбілася і ў народным календары. За м-ц сакавік дзень прыбывае на 2 г. 13 мінут.

У сакавіку прыпадае Сяродпосьце — хрэсцы, каторыя дзе-ня-дзе беларусамі адзначаюцца сымболічнымі абрадамі, якія маюць сувязь з жывёлагадоўляй, пасевам, і нават з „нячыстаю“ сілаю.

У народным календары: —

Сакавіком дрэвы сок пушчаюць. Сакавік зямлю будзіць, красавік мые, а травень прыбірае. Сакавік часам сонцам грэе, а часамі сьнегам сее. У сакавіку ўдзень плюшчыць, а ўночы трашчыць. Сакавік вясну пачынае — сьнегам замятае. У сакавіку сані з калёсамі сварацца. Сухі сакавік, а мокры травень — будзе добры ўраджай. Як у сакавіку туман, дык у жніва дожджык пан. У сакавіку курка з лужы нап'ецца.

У марцы як у гарцы. Прышоў марац — адмарозіш палец, а калі Бог не ўбясьпеча, адмарозіш і плечы. Часамі і ў марцы памарозіш пальцы. Марац кусае (шчыпле) за па-

лец. Настаў марац—зморшчыўся старац. Калі марац пражыў старац—будзе здароў, а баба заслабее — на Бога надзея. Далёка марац корму пытае, хто летам яго ня прыдбае. У марцы скацінка ў хляве гаспадара часта кляне.

1. (Стар. стылю) Сьв. Аўдакія ў руцэ лета трымае. Аўдоцьця пагодна — усё лета прыгодна.

2.III. (с.с.) На Хвядота занос, усё сена зьнясе.

4.III. На Казімера зіма ўмірае.

9.III. (с.с.) Саракі пчальніковае. Які дзень на 40 мучанікаў, такія 40 дзён па мучаніках. 40 мучанікаў—да лета 40 маразоў. На 40 мучанікаў дзень з ночаю мерыцца. На 40 муч. сарока пачынае віць гняздо. На 40 муч. з выраю прылятае 40 жаўранкаў.

10.III. На сьв. Прыска праб'е лёд і пліска.

17.III. (с.с.) На Ляксея вол павінен з лужы напіцца. Сьв. Ляксей сохі чэша. Ляксей—сьвята рыбацкае.

19.III. Як сьв. Язэп кіўне барадою, дык зіма ўцякае ўніз галавою. Сьв. Язэп сярод посту шлюб дае прахвосту.

25.III. На Дабравешчаньне Бог багаслаўляе ўсе расьліны. На Дабравешчаньне і птушка гнязда не кладзе. На Дабравешчаньне звон, а ў морквы дух вон (траціць сокі). На Дабравешчаньне прылятае бусел. Дабравешчаньне як захоча, дык і бусел заклякоча. У каго хлеба шмат, Дабравешчаньню рад. На Дабравешчаньне цёпла—ураджай на гарэхі. Сьв. Дабравешчаньне заворывае.

27.III. (с.с.) На Матрону шчупак хвастом лёд прабівае.

У месяцы сакавіку, дня 25 прыпадае Беларускае Народнае Сьвята — ўгодкі абвешчаньня Беларускай Народнай Радай III цяй устаноўнай граматай Беларусь Вольнай і Незалежнай Рэспублікай.

**У. Паў—скі.**

---

# *ПАДЗЯКА.*

*Рэдакцыйная Калегія «Шляху Моладзі" гэтым шчыра дзякуе Грам. АЛЬБІНУ СТЭПОВІЧУ — дырыгенту Беларускага Хору ў Вільні, а так-жа А. МАХОНЬЦЫ і Рэд. Я. ПАЗЬНЯКУ за бязінтэрэсоўнае ўчасьце ў вечары «Шляху Моладзі», якое так многа прычынілася да ўзбагачэньня праграмы*

*Рэд. Калегія «Шляху Моладзі».*

---

# Літэратурны аддзел.

* * *

Ня крычу, не шкадую, ня плачу,
Што расплёскала солад жыцьцё
Я і так сваю торбу жабрачу
Перакіну сабе праз плячо.

Не таго, не таго я шукаю,
Не па шчасьце прышоў я сюды.
Ціхай радасьцю сьвет я кахаю
Маткі праўды цалую сьляды.

Ў гэтым моры цемры і адчаю
Чую, чую я покліч другі.
Хутка сонца ад краю да краю
Азарыць нашы цёмныя дні.

Задрыжаць зоры новую казку
На разлогі прастор ральлі,
Людзі знойдуць купальскую краску,
Краску згоды, дабра і любві.

Дык з вандроўніка кіем пад пахай
Прывітаю я зорны прастор
Хай дрыжаць, хай сьмяюцпа з павагай
На жабрача мой бедны ўбор.

Ня крычу, не шкадую, ня плачу,
Што расплёскала солад жыцьцё
Я і так сваю сьцежку адзначу
Шчырай верай ў сьвет і дабро.

**М. Машара.**

## МОЛАДЗ, ДА ПРАЦЫ!

Да працы, йсьці пара настала...
Даволі нам стагнаць, чакаць,
Бо толку з гэтага ўжо мала—
Ніхто нічога нам ня дасьць!

Няма, няма душой вялікіх,
Каб нашы сьлёзы асушыў,
Каб кто прышоў на нашы крыкі
Каб нехта нешта нам зрабіў!

Ідуць гады так чарадою
І ў чаканьні сходзіць век,
Ды толькі горкаю сьлязою
Бяды ня збудзе чалавек!

Павінны самі мы змагаецца
За свой людзкі і лепшы быт,
На зьдзек і крыўду не давацца--
Дык будзьма цьвёрды як граніт!

Далёка, браткі, мы адсталі,
Другія ўжо пашлі ўпярод,
А мы стагналі і чакалі,
Каб нехта рушыў нас у ход.

Браты, ўсе да працы шчырай,
Усе—к агульнаму дабру!
Нясём мы сьвет старонцы мілай
Каб разагнаці цемнату.

**Н. Жальба.**

* * *

Kruhom stajać tut usio hory,
Jak vołaty, u chmarach mora,
Jany panury i vysoki,
Pakryty lesam, hałaboki,
Śpičasty skały u hary,
Žyćcia ludzkoha hrabary,
Na ŭsio hladziać jany panura
I da ŭsiaho, znać, raŭnadušny.
Šlapaja, niemaja natura,
Nijakaj voli nie pasłušna,
Praz Boha kinuta ad vieku,
Kab być praškodaj čałavieku,
Jany jamu nie paddaducca,
Stajać sabie, z jaho śmiajucca.

Čužyncy, nia lublu ja vas!
Choć vy pryhožy ŭ kožny čas,
Choć vašaj vieličaj ździŭlony,
Choć tut da vas z usich staron
Špiašać turysty, jak šalony —
Nie razlahniecca miły ton
Majej tut pieśni biełaruskaj,
A na darožcy ŭ lesie vuzkaj
Nia ŭbaču ja vaza z duhoj,
Na im—tej rodnaje siarmiažki.
Byvaj zdaroŭ ty, kraju moj!
Ech, mnie tut, bratcy, ciažka...

Zakapana. *J.Bylina.*

## VOŬK U SIALE.

(Bajka).

Šukajučy sabie pažyvy
Zabieh hałodny voŭk ŭ siało.
Jak na biadu lichuju,
Sabak tut proćmu naniasło...
I padniali na nohi ŭsich,
Chto tolki byŭ žyvy ŭ siale...
Dy na vaŭka... prosta — vajna!
Sabaki brešuć, až viščać...
Siało ŭsio rynuła za im,
Chto z čym:
Z siakierami, vilami,
Z ahłoblami...
A sielski starasta Pachom
Z drabavikom...
I z medalom.
Biahuć za voŭkam i kryčać:
—„Ho-ho... Ciuha! ciuha"!
—„Trymajcie!..." Voŭka!... Voŭka!...
—„Jaho, źviara, dziaržecie!"...
— „Viaroŭkaju viažecie!..."
— „A dzie viaroŭka?..."
— „Ivan, voś, na, pastronka!" —
Kryčyć nad vucham žonka.
Voŭk bačyć, tut ladača sprava,
I šmyhanuŭ... uleva... ŭprava,
Kudy nia kinie vokam —
Nia daść nijakaj rady skokam...
Kruhom płaty i aharodka...

Jakaja-ž rada tut pamoža?
I, utuliŭšy zad ŭ płaty,
Pramoviŭ voŭk da ich:
— „Braty!
Što vam ladačaha zrabiŭ,
Što honicie mianie vy hramadoju?“
— „A chto kania mnie zadušyŭ?“
Kryčyć Ściapan z vialikaj baradoju.
— „Tvoj koń užo zdychaŭ...“
—„A chto aviečku mnie zabraŭ?“—
Tut z hramady jaho pytaje
Siardzity dzied Žmitruk.
— „Jana sama pryjšła da ruk...
Była jana zusim ručnaja“...
— „A dzie maje cialaty?“—
Spytałasia Ahata.
— „Pa lesie dzieś błukajuć
Karoŭ svaich šukajuć;
Chaj prydzie ŭ les katora i zarykaje;
Dyk matku tam ciala pa hołasie
[paznaje“ —
— „Machluješ, kum!
Daŭno ŭ siale my znajem
Ciabie z tvaim zvyčajem
I vielmi šmat
Nam, kumie, vinavat!“
— „Paviercie mnie, bažusia, ŭ vas
Jašče ja pieršy raz...
Puścić‘ mianie žyvoha
Ja tolki vas prašu
I bolš ničoha nie chaču“ —
— „Voś, pačakaj! Jak raz!“ —
skazaŭ stary Pachom,
Naceliŭšy na voŭka:
— „Ty vinavat usim kruhom,
I viedaješ, kumok,
Darma tvaja brachnia-vymoŭka...
Byŭ voŭkam ty i budzieš voŭkam!“...
I apuściŭ kurok.

*J. Vilkoŭščyk*

---

Папраўка: З прычыны недагляду у прошлым нумары здарыліся такія памылкі: у вершы „Не паддавацца“ ў 3 радку трэба замест „ўздымаецца“ —„ўздымецца“, у радку 40 замест „потам“, трэба— „потапам“. На бач. 22 у радку 17 знізу пасьля слова „марской“ апушчана слова „сьпекі“.

---




## PRYCHOD VIASNY.

*Šnieh źnikaje vidavočna,*
*Łomiać reki ŭsie lady —*
*Jdzie viasionka šybkaskočna*
*Na zimowyja ślady.*
*Užo ŭzhorkavy chrybciny*
*Stali z śniehu vyhladać,*
*Staŭ šumieci bor starynny —*
*Ab viasioncy tałkavać.*

*A viasionka, jak dziavica,*
*Tak saromliva idzie —*
*Ale sonca ŭžo iskrycca*
*U śviatlejšaj vysacie...*
*I ledzianyja akovy*
*Chutka, chutka prapaduć.*
*I pačniecca ruch žyćciovy,*
*Pieśni ščaścia zahuduć.*

A. ROŚCIK.

# Вацюковы суботнікі.

(Гл. „Шл. Мол." № 2 (62).

Ізноў прыйшла субота. Дні ўжо сталі шмат даўжэйшымі, так што калі нашыя знаёмыя сабраліся ў Вацюка, сонца яшчэ не пасьпела зайсьці і слала свае косы на затужыўшую па яго ласцы зямлю. У паветры ўжо адчувалася недалёкая вясна. Вочы дзяцей самахоць беглі ў поле, шукаючы сьлядоў канца зімы. Гутарка ня клеілася...

— Я, аднак не магу гэтага паняць — перарвала раптам цішыню Анелька, — якім спосабам з буракоў можна зрабіць белы, цьвёрды і салодкі цукар?...

— Скульжа-ж табе цукар на думку прыйшоў—зьдзівіўся Кастусь.

— Сягодня мы ў школе дыхтоўку пісалі і быў там сказ: „цукар робіцца з буракоў."

— Я нават, прыйшоўшы да хаты, парэзала бурак, прыглядалася, каштавала, але ніякага цукру не знайшла. Скажы, Вацюк, ты пэўна ведаеш, як можна гэты гаркаваты бурак перарабіць на цукар?

— Перарабіць, — адказаў Вацюк, немагчыма, але выцягнуць з яго цукар зусім нятрудна, хоць да гэтага трэба мець шмат розных прыладаў, машынаў ды катлоў. Калі ўсіх гэта цікавіць, то ахвотна раскажу, што сам помню.

— Ды разумеецца, што цікавіць, пасьпяшыў запэўніць Янка; нават пакаштаваць хіба ніхто не адмовіўся-б.

— Ну з гэтым то пачакай,—засьмяяўся Вацюк, як я сёлета нагадую цукровых буракоў, то ўвосені зраблю цук-

ровага сыропу, тады пакаштуеш, хоць ён не такі ўжо смачны, як чысты цукар.

— То ёсьць асобныя цукровыя буракі?— запыталася Анелька.

— Так. Буракі белыя, доўгія. Яны маюць ў сабе вялікую колькасьць цукру.

— І ў нас яны маюць расьці! уцешыўся Кастусь.

— Могуць, хаця ня надта вялікія і горшыя чым на чарназёме. Дзеля гэтага іх у нас ў большай колькасьці ня садзяць і цукраварняў ня ставяць. Цяпер толькі пачалі ў нас пакрысе садзіць на свае патрэбы на сыроп, з якога добрыя павідлы робяць, а нават, як я чуў, будуць такім сыропам пчолы падкармліваць.

— Калі можам гадаваць буракі, то чаму не рабіць сабе сапраўднага цукру? — разважаў Янка.

— Не, гэта немагчыма. Як я ўжо казаў, дзеля вырабу цукру трэба мець катлы ды розныя машыны, трэба мець хвабрыку г. зв. цукраварню. Там буракі перадусім чыста мыюць, а тады аддзяляюць сок ад цьвёрдых частак. Сок аддзяляюць двума спосабамі Або труць буракі на адумысловых драчах, і тады выціскаюць яго машынамі, або парэзаныя на кускі, таксама машынамі, буракі кладуць ў нешта пацобнае да катлоў і прапускаюць праз іх ваду, якая працякаючы вымывае і забірае з сабой распушчаны цукар.

Вада гэта пераходзіць праз усе катлы і ўбірае ў сябе што раз больш цукру.

— Атрыманы ці першым, ці другім спосабам цукровы сок мае ў сабе шмат розных непатрэбных дамешак, ад якіх яго трэба ачысьціць. Дзеля ачышчэньня даліваюць да соку **вапеннага малака**, г. значыць распушчанай ў вадзе вапны, і гэту сумесь вараць. Падчас кіпеньня вапна хэмічна злучаецца з цукрам; тады сумесь фільтруюць, г. зн. ачышчаюць ад лішняй вапны і непатрэбных дамешак. Далей, праз цукар злучаны з вапнай, прапускаюць пэўны газ, пад ўплывам якога цукар ад вапны, аддзяляецца. Цяпер ён ужо шмат чысьцейшы, але ня зусім. Дзеля далейшага ачышчэньня прапускаюць цукровы сыроп праз пласт касьцянога вугля (паленыя косьці) . Кожны вугаль, а асабліва касьцяны мае такую ўласьцівасьць, што затрымлівае ўсялякія брудныя, сьмярдзючыя і захварбаваныя часткі, так што пасьля прапусканьня праз яго, цукровы сыроп выходзіць амаль зусім чысты. Але ён яшчэ рэдкі. Цяпер яго вараць, а як згусьцее, тады яго яшчэ вельмі моцна награваюць у зачыненых шчыльна катлах, бяз доступу паветра да тае пары, пакуль ён не пачне крысталізавацца, ці інакш...

— Ведаю, ведаю, — перарваў Паўла, ты гэта казаў пры гутарцы аб солі. Крысталізавацца, гэта значыць асядаць малюсенькімі кусочкамі аднэй акрэсьленай формы.

(д. б.) **Л. Войцікава.**

## VIALIKDZIEŃ PRYBLIŽAJECCA...

Padčas Vialikodnych śviat biełaruskaja moładź, starejšaja i małodšaja, hurtujučysia ŭ hrupki idzie ŭ wałoŭniki śpiavajučy relihijnyja i narodnyja biełaruskija pieśni, raźviesialajučy imi svaje šeryja vioski. Dziela šyrejšaha raspaŭsiudžańnia adnej vielmi pryhožaj narodnaj vialikodnaj pieśni „Idziom, pajdziom ŭdol vulicy", padajom tut jaje noty i słovy ŭ muzyčnaj apracoŭcy hram. A. Stepoviča i dumajem, što moładź, katoraja dahetul jaje nia znała, zaraz-ža navučycca i budzie ŭžo śpiavać padčas sioletniaha Vialikadnia, jaki ŭžo nie zaharami.

### IDZIOM, PAJDZIOM ŬDOL VULICY.

(Vałačobnaja biel. narodnaja pieśnia).

Ad M. Pieciukieviča z Brasłaŭščyny
zapisaŭ i zharmanizavaŭ A. Stepovič.

Davoli žyva.
Solo.
mf.
Idziom, pajdziom ŭdol vu - li -cy.
S. A.
p.
Chor zakrytymi hubami.
f.
Śpia-vaj-cie, bratcy, śpia-vaj - - cie!
T. B.

Idziom, pajdziom ŭdol vulicy
Śpiavajcie bratcy, śpiavajcie!*)
Udol vulicy ŭ panienski dvor,
Panienski dvor na siem vakon:
Hety vokny nia prostyja,
Nia prostyja— klaštornyja,
Klaštornyja — kaštoŭnyja.
Dobry viečar, panienačka!
Ci śpiš lažyš — adpač'vaješ?
Kali-ž ty śpiš — ustań z łožku,
Ustań z łožku, abuj nožku
ŭ čaravički šaŭkovyja,
ŭ pančošački bialovyja,
Padviazački šaŭkovyja,
Nadzień sukniu jadvabnuju,
Nadzień futru ksamitnuju.
Pryčašysia hładziusieńka,
Dy padyjdzi bliziusieńka,
Dy padyjdzi, nia stydzisia.
Vaźmi kresła dy sadzisia;
Siadź pad akon na schod sonca.
Proci akna zialony sad,
A ŭ tym sadzie—vinahradzie —
Kvietki ćviciać, raśćvitajuć,
Ptuški piajuć, raśpiejvajuć, —
Sałaviejki — kanarejki.

*) Špiavajcie bratcy, śpiavajcie!" — paŭtarajecca za kožnym radkom.

---

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Беларускае Народнае Сьвята.** Беларускае грамадзянства, за прыкладам мінулых гадоў, падгатаўляецца да ўрачыстага сьвяткаваньня дня 25 сакавіка Беларускага Народнага Сьвята— чарговых, 16-тых угодкаў абвешчаньня ў 1918 г. у Менску Незалежнасьці Беларусі. У Вільні сьвяткаваньне арганізуе

Беларускі Нацыяналны Камітэт паводле наступнае праграмы: а гадз. 10 нараніцы ўрачыстая Імша ў касьцеле сьв. Мікалая, а гадз. 12 у саборы сьв. Духа, пасьля Абедні, урачысты малебен; а гадз. 19 мін. 30 урачыстае паседжаньне Бел. Нац. К-ту ў залі Бел. Інстытуту Г. і К., на якім Кс. В. Гадлеўскі прачытае адпаведны рэфэрат, а пасьля адбудзецца вокальны канцэрт, падчас якога будуць сьпяваць Бел. Хор пад кіраўніцтвам А. Стэповіча і салісты. — Бязумоўна, правінцыя не павінна адставаць ад Вільні і дзень 25 га сакавіка с.г. павінна так-жа адпаведна ўшанаваць, ладзячы ўрачыстыя вечары, ці хоць супольныя прыватныя зборкі, разважаючы на іх значэньне незалежнасьці Беларусі.

**Паседжаньне Рады Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** 18.III. с.г. у Вільні адбылося агульнае гадавое паседжаньне Рады Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры. Дзеля таго, што абгаварывалася на ім многа важных спраў, аб якіх уважаем за абавязак шырэй паінфармаваць нашых чытачоў, а ня маючы на гэта месца ў нумары за м-ц сакавік, мы змушаны адлажыць падрабязную справаздачу з паседжаньня Рады Інстытуту, а так-жа агляду працы за мінулы год, да наступнага нумару.

**З дзейнасьці Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце.** — 25.II с. г. у Т-ве Прыяц. Беларусаведы (VI заля гал. будынку ўнівэрсытэту) чытаў лекцыю студ. Хв. Ільяшэвіч аб „Беларускім лемантары з 1862 г.“ — 18.III. с. г. там-жа чыталі лекцыі студ. В. Тумаш на тэму: „Матэр'ялы датычачыя беларускае мовы з-пад Вішнеўскага возера“ і др. Я. Станкевіча на тэму: „Стан языкаведы і нацыянальнага пачуцьця ў Б.С.С.Р.“ —4.III. с. г. адбыўся Агульны Надзвычайны Сход Т-ва, на якім паўторна разглядалася справа вынесяньня протэстуючай рэзалюцыі супроць зьдзеку над беларускай мовай у БССР і РСФСР і прымусовага яе русыфікаваньня, дзеля таго, што вынесяная 4.II. с. г. рэзалюцыя была Куратарам (апякуном) Т-ва ўстрымана (завешана) з прычыны пэўных нефармальнасьцяў. Ня гледзячы на тое, што ўсьцяж зьмяншаючаяся група бел. студэнтаў масквафілаў і саветафілаў вяла супроць вынесяньня протэстуючай рэзалюцыі шырокую агітацыю, аднак рэзалюцыя большасьцю галасоў была паўторна прынята. На сходзе гэтым адбыліся так-жа перавыбары ўладаў Т-ва. У склад новага Ўраду ўвайшлі: В. Войтэнка—старшыня, Я. Бурак, В. Тумаш, С. Сарока і Ч. Будзька — сябры Ўраду. У склад Рэв. Камісіі ўвайшлі: Хв. Ільяшэвіч, Т. Мацьвеева і др. Я. Станкевіч. Новым уладам Т-ва Пр. Беларусаведы жадаем плоднай працы на ніве беларускай.

**Лекцыя ў Беларускім Студэнскім Саюзе.** 3.III. с. г. у памешканьні Бел. Інстытуту Г. і К.(Вільня, Завальная 1), куды нядаўна перанёсься Бел. Студ. Саюз, адбылася лекцыя студ. В. Тумаша аб Дарвінізьме — першая частка.

**Новыя творы і працы беларускіх паэтаў-пісьменьнікаў.** Малады і даравіты беларускі паэт Міхась Машара напісаў нядаўна з вялікім пачуцьцём і мастацтвам паэму п. н. „Сьмерць Кастуся Каліноўскага", выданьнем якое занялося выд. „Шл. Моладзі". Беларускі паэт-пісьменьнік В. А. (Вінцук Адважны) напісаў вялікую повесьць п. н. „Хлапец", якую мае выдаць „Бел. Крыніца".—Грам. У. Паўлюкоўскі ўлажыў і добра апрацаваў кніжыцу „Тэхніка вершаў"; рукапіс яе знаходзіцца ў нашай рэдакцыі і чакае на выдаўца. Кніжка гэта вельмі патрэбная для нашых маладых пачынаючых паэтаў і выданьне яе ёсьць проста неабходнай канешнасьцю. Калі-б хтось мог гэта зрабіць, просім ветліва нас аб гэтым паведаміць.

**Апэляцыйны Суд** над вучнямі бел. наваградзкае гімназіі, якіх нядаўна засудзіў Акруж. Суд у Наваградку ад 1—2 гадоў вастрогу, адбудзецца дня 13 красавіка с. г. ў Вільні.

**Агульны Гадавы Сход Віленскага Аддзелу Бел. Інстытуту Гасп. і Культ.** адбыўся дня 11.III, с. г. на якім, пасьля прыняцьця да ведама справаздачы з дзейнасьці старога ўраду, выбраны новы ўрад, у склад якога ўвайшлі: А. Стэповіч, інж. А. Клімовіч, Я. Найдзюк, Ул. Казлоўскі і А. Яцына. Новы ўрад мае пасьля Вялікадня наладзіць вечар „Чырвонага Яечка"

# Usiačyna.

**Novy samalot.** Amerykanski inž. Stejk zbudavaŭ novy samalot, jaki maje matory z siłaj 2.300 koniaŭ i moža rabić 910 klm na hadzinu.

**Vializarny cepelin.** Niemcy budujuć novy vializarny cepelin dla komunikacyi z Amerykaj. Cepelin hety budzie mieć 2000 kubičnych metraŭ abyjma, 248 metr. daŭžyni i 4 matory z siłaj 1200 koniaŭ.

**Ludzkoje asielišča z prad 20.000 hadoŭ** vykryła navukovaja ekspedycyja ŭ vakolicach Branska nad Donam. Asielišča heta składajecca z 6 ziamlanak i 4 padziemnych schovaŭ, u jakich znojdzieny roznyja chatnija pryłady z hliny, a tak-ža kości mamuta, miedźviadzia, vaŭka i mnoha rybnaha aścia.

**Niazvyčajny marski źvier.** U Francyi na bierahoch Normandyi marskija chwali vykinuli niažyvoha marskoha źviara padobnaha da vuža z viarbludžaj hałavoj. Prafesar, jaki zaniaŭsia daśledžvańniem hetaha źviara, pieraviozšy jaho ŭ Paryž, u hutarcy z publicystami zajaviŭ, što źvier hety moža zusim saboj nie pradstaŭlać niejkaha novaha, dasiul nikomu nia znanaha rodu marskich źviaroŭ, a prosta źjaŭlajecca niejkim nienarmalnym vyradkam, padobna jak byvajuć vyradki cialaty z 2 hałavami.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

М. Машары. За ўсё прысланае шчырая падзяка, рэшта будзе ў пісьме.

Я. Вількоўшчыку. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем, будзем пакрысе карыстаць. Просьбу споўнілі.

Н. Жальбе. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем. Адну карэспандэнцыю самі выкарысталі, другую перадалі згодна з Вашай просьбай. Верш прысланы слабы. У гэтым нумары друкуем адзін з Вашых вершаў і радзім яго параўняць з арыгіналам, а тады пабачыце недахопы; папераджаем, аднак, што і гэта рэдакцыя, ў якой ён друкуецца, непершарадная. Трэба больш чытаць і працаваць над сабой.

П. Лішняму. Прысланыя вершы ўсе слабыя і хоць Вы пішаце, што паправіць сваіх вершаў ня можаце, то мы аднак верым, што каб Вы над імі папрацавалі, то яны былі-б далёка лепшыя. Спатыкаць больш такіх „паноў", якіх Вы ўжо спатыкалі з вялікай „помпай" — ня радзім, бо яны на гэта не заслугоўваюць, а калі ўжо спатыкаць, дык трэба сказаць усю праўду..,

А. Росьціку. Прысланыя вершы агулам слабыя, а асабліва-ж мерай і рытмам, адзін аднак з іх, у меру магчымасьцяў, выправілі і друкуем. На папраўкі просім зьвярнуць увагу і надалей, пяра радзім ня кідаць, бо да яго маеце здольнасьць. Радзім так-жа Вам папрабаваць пісаць кароткія апавяданьні прозай.

Р. Сьлёзьніку. За прысланыя грошы дзякуем, што датыча чытальні, перадалі ў належнае месца — як гэтая справа стаіць даведацца мы не змаглі. — Ці ня лепш было-б Вам залажыць Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры? Пры ім Вы маглі-б мець бібліятэку-чытальню і маглі-б ладзіць вечарыны, спэктаклі, лекцыі і ім падобныя імпрэзы. Бібліятэка-чытальня добрая рэч, але Гурток Інстытуту лепшая. Падумайце.

А. Жуку. Вершы атрымалі, дзякуем, у меру магчымасьцяў будзем карыстаць. Просім прыслаць сваю біографію.

П. Авічу. Ад Вас належыцца 2 зл. за 1934 г., калі хочаце атрымаць прэмію, просім прыслаць 3 зл. За добрае разьвязаньне круцігалоўкі № 2 у выніку лясаваньня, нагарода Вам, на жаль, ня выпала.

Фролу М—вічу. Разьвязаньне круцігаловак з №2 „Шл. М" дужа удалае і акуратнае, нагарода на гэты раз аднак Вас абмінула. Прэмію высылаем. З прысланых народных твораў скарыстаем і просім запісваць падобныя матэр'ялы на далей і прысылаць іх у рэд. „Шл. Мол."

Гараўніку. Вершы. „Да асьветы" — зусім слабы і да друку не падходзіць, „За дзела" — паправім і надрукуем у наступным нумары. Больш чытайце і працуйце над сабой. Радзілі-б Вам папрабаваць пісаць прозай. „Шлях Моладзі" высылаем, грошы просім слаць звычайным паштовым пераказам на адрэс рэдакцыі „Шляху Моладзі".

P. Ramančuku. Vam adkaz dali my ŭ Nr. 1 „Šl Moł." za 1934 h., dyk prosim na jaho i źviarnuć uvahu.

J. Zytku. Prośbu spaŭniajem, varunki prenumeraty „Šlachu Moładzi" znojdziecie na 2 bačynie probnaha numaru „Šl. Moł.", jaki Vam vysyłajem. Ciešyć nas duža, što moładź u Vašaj staroncy bajkatuje polskija pradstaŭleńni „Koła Młodzieży Wiejskiej" i damahajecca, kab staviła jana pradstaŭleńni biełaruskija. Jość heta biazumoŭna dokaz, što tamašniaja moładź darasła, naležna raźviłasia, uśviedamiłasia i choča „ludźmi zvacca".

*Усіх падпішчыкаў гумарыстычнае беларускае часопісі „АВАДЗЕНЬ", якая цяпер з прычыны цяжкога матэр'яльнага палажэньня ня выходзіць, паведамляем, што грошы прысланыя імі на гэтую часопісь, на падставе паразуменьня выдаўца „Авадня" з выд. „Шляху Моладзі", будуць лічыцца за падпіску на „Шлях Моладзі" і за гэту падпіску ўсім, праз адпаведны час будзем высылаць „Шл. М." Калі-б хто з заінтэрэсаваных у гэтай справе меў нейкія засьцярогі, просім з імі зьвяртацца да Грам. А. Васілеўскага выд. „Авадня" — Вільня, Замковая вул. № 7.*

*Выдавецтва „Шляху Моладзі".*

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# КУТОК РАЗРЫВАК.

**Разьвязаньні круцігаловак друкаваных у №№ 1 і 2 „Ш. М.“.**

Круцігалоўка № 1 — Янка Купала.

Рассыпанка № 1 —

„...Падымайся з нізін, сакаліна сям'я  
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!  
Занімай Беларусь маладая мая,  
Свой пачэсны пасад між народамі“.

Загадка № 1 — Зіма, ёлка, ялавец.

Круцігалоўка № 2 — словы: 1) Нарач, 2) Янка, 3) Хата, 4) Ашмяна, 5) літара й, 6) жывот, 7) літэра ы, 8) воўк, 9) Еўка, 10) шапка, 11) лямпа, 12) ястраб, 13) хаўтуры, 14) Маланка, 15) ой, 16) лук, 17) Алесь, 18) дуб, 19) Зорка, 20) івалга. Разьвязаньне: Няхай жыве Шлях Моладзі.

Круцігалоўка № 3 — словы: 1) гарт, 2) убожка, 3) шнур, 4) чапяла, 5) авёс. Развязка: — Гушча Тарас.

**Круцігалоўка № 4** — *влаж. М. Р.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |
| | | X | | |

Значэньне слоў:

1. Дзікі вялікі лес.
2. Інакш вялікі чалавек.
3. Стары беларускі народны абрад.
4. Часьць сялянскае хаты.
5. Рака ў Беларусі.
6. Старое гістарычнае места ў Зах. Беларусі.
7. Інакш сьвітаньне.
8. Род сцэнічнага твору.
9. Староньнік аднаго з бел. паліт. кірункаў.
10. Інакш выдуманае апавяданьне.
11. Дрэва.

На месцы крыжыкаў з сярэдніх літар слоў, чытаючы згары ўніз атрымаем разьвязку.

**Загадка № 2.** У лазе—трапязе стаіць казак на аднэй назе?

**Загадка № 3.** Ішло трох чалавек: двух бацькоў, двох сыноў і адзін ўнук і ўсіх іх было толькі трох, як гэта магло быць?

УВАГА! Паведамляем усіх аматараў круцігаловак, рассыпанак, загадак і інш. разрывак, што за разьвязаньне кожнае круцігалоўкі, рассыпанкі ці загадкі Рэдакцыя прызначае адну нагароду ў форме добрае беларускае кніжкі, ці падпіскі на „Шлях Моладзі“. Нагароды гэтыя будуць прызнаваны лёсаваньнем. Пры тым паведамляем, што кіраўніцтва „Кутка Разрывак“ вядзе рэестрацыю прысыланых разьвязак, адпаведна іх ацэньваючы паводле колькасьці, акуратнасьці і формы. На падставе гэтае ацэны ў канцы году адбудзецца конкурс. Хто прышле найбольш і найакуратнейшых разьвязаньняў за цэлы год, той будзе прызнаны за „Мастака Круцігаловак“ „Шляху Моладзі“ за 1934 г. і за гэта асобна атрымае ад рэдакцыі нагароду зложаную з некалькіх цэнных бел. кніжак.

Нагарода за разьвязаньне круцігал. № 2 — зборнік вершаў А. Зязюлі „Z rodnaha zahonu“ і кніж. „Вітаўт Вялікі і Беларусы“ прыпала грам. А. Паўлені. Кніжкі гэтыя ўжо высланы. Нагарода за разьвязаньне круц. № 3 — гадавая падпіска на „Шл. Моладзі“ прыпала грам. А. Мацуру.